




# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».
*— Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№ 421 Люты 1995
Год выд. 44

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## БЕЛАРУСЬ ПЕРАД ГІСТАРЫЧНЫМ ВЫБАРАМ

### Каго выбіраць у Вярхоўны Савет і што выбіраць для Беларусі?

Выбаршчыкі Беларусі будуць мець 14 траўня сёлета унікальную нагоду вызначыць далейшы ход разьвіцьця ў сваёй краіне. Новы Вярхоўны Савет, за які яны прагаласуюць, будзе розьніцца ад цяперашняга ня толькі колькасьцяй дэпутатаў (260 замест 360), але і характарам — члены ВС ня будуць больш дзяржаўнымі функцыянерамі, урадоўцамі, а толькі заканадаўцамі, «прафэсійнымі» палітыкамі.

Паводле дасюлешніх прагнозаў, у новым парляманце Беларусі будзе больш дэмакратаў і прадстаўнікоў цэнтрысцкіх партыяў і плыняў, менш адкрытых і прыхаваных камуністаў-імпэрцаў. Хоць, як ведама, прагнозы не заўсёды спраўджаюцца. . .

Як і ў 1990 годзе, у сёлетніх парляманцкіх выбарах у шмат якіх акругах будзе па 5-10 і больш розных кандыдатаў на адно месца. Людзі прыгэтым будуць выбіраць ня толькі заканадаўцаў, але разам з тым і палітычны курс для сваё дзяржавы, далейшы ход як нутраной, гэтак і замежнай палітыкі.

Апошнія пяць гадоў паказалі, што ў Беларусі нутраная і замежная палітыка цесна ўзаемазьвязаная, прычым курс нутранога разьвіцьця быў падпарадкаваны курсу замежнапалітычнаму. Урадавая намэнклятурная бальшыня і прамаскоўская бальшыня ў Вярхоўным Савеце кіраваліся ў сваіх дзеяньнях ня ідэяй нацыянальна-дзяржаўнага дэмакратычнага адраджэньня Беларусі, а намагаліся аднавіць прывідны «саюз» на чале са «старэйшым братам» у Крамлі. Да чаго гэткая палітыка давяла, паказвае мізэрны стан беларускай эканомікі і культуры. Асабліва калі паглядзець на зьмены ў прыбалтыцкіх дзяржавах.

Тымчасам, няздольная да цывілізаваных мірных перамоваў зь меншымі народамі, Масква пайшла на крывавы канфлікт у Чачні і, каб захаваць свой статус супэрдзяржавы, хоча ўцягнуць у падобныя авантуры іншыя краіны СНД. Імпэрскія амбіцыі Крамля кладуцца цяжарам і на суседнія з Расеяй дзяржавы, асабліва на Беларусь, што была данядаўна «заходнімі варотамі СССР» і дасюль застаецца ў шмат якім сэнсе пляцоўкай расейскіх геапалітычных камбінацыяў. Трэба спадзявацца, што ў сёлетніх парляманцкіх выбарах беларусы скажуць: досыць нам ролі маскоўскіх «варотаў», ролі расейскага плацдарму. Людзкія, матар'яльныя і культурныя страты ў дзьвюх сусьветных войнах паказалі нам, якую цану мусіла плаціць Беларусь як прыдатак (Северо-Западный Край, БССР) імпэрыяльнае Расеі.

Дамогшыся цяпер сувэрэнітэту, незалежнасьці і магчымасьці выбіраць спасярод розных палітычных кандыдатаў у свой нацыянальны парлямант, беларускі выбаршчык, трэба думаць, усьведаміць сабе гістарычную важнасьць сёлетніх выбараў у Вярхоўны Савет і аддасьць свой голас за тых кандыдатаў, якія ставяць вышэй за ўсё інтарэсы дэмакратычнае, незалежнае беларускае дзяржавы, не далучанае да якіх-бы там ні было ваенных блёкаў, свабоднае ад чужых ваенных базаў, якая будзе разьвівацца ў мірным сужыцьці з усімі сваймі суседзямі, у тым ліку і з дэмакратычнай Расеяй.

### ПРАГНОЗ ВЫНІКАЎ ПАРЛЯМАНЦКІХ ВЫБАРАЎ

Выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі адбудуцца 14 траўня сёлета. Які будзе новы парлямант?

«У ім будуць прадстаўлены левыя, правыя сілы працэнтаў на 25-30... Пры гэтым левы блёк адназначна не прайграе дэмакратам. Разам з тым нямала дэпутацкіх мандатаў атрымае партыя ўлады». (Віктар Чыкін, сакратар Беларускай партыі камуністаў)

«Значная частка новага беларускага парляманту будзе прадстаўлена дэмакратычнымі арганізацыямі. Хоць увойдзе ў яго нямала прадстаўнікоў левай арыентацыі» (Аляксандр Дабравольскі, лідэр Аб'яднанай дэмакратычнай партыі)

«Дэмакратычны блёк набярэ 50 працэнтаў дэпутацкіх мандатаў у новым парляманце і найбольш у ім будзе прадстаўлены Беларускі народны фронт» (Генадзь Карпенка, лідэр Партыі народнай згоды)

«Ня будзе рэальнай перамогі ні адной палітычнай сілы. Але нават у гэтай сытуацыі шанцы БНФ на выбарах вялікія. (Зянон Пазьняк, старшыня Беларускага народнага фронту)

(Паводле газ. «Звязда», гл. «Беларускі Дайджэст», нр. 2, люты 1995.)

### Б. ЕЛЬЦЫН У МЕНСКУ

Прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын правёў два дні ў Менску (21-22.II) у суправаджэньні міністраў абароны і замежных спраў. Падпісаны пакет расейска-беларускіх пагадненьняў эканамічнага і ваенна-абароннага характару. Не дасягнута, аднак, паразуменьня аб пастаўках Беларусі расейскай нафты па заніжанай цане. Ельцын прамаўляў у АН Беларусі, гаварыў пра цясьнейшыя сувязі Расеі зь Беларусяй і Казахстанам. Паліцыя разганяла пікетчыкаў з БНФ, якія пратэставалі супраць пагадненьняў. *(Паводле Ройтэра з 21-22.II.95)*

## ЦІ ВЫЖЫВЕМ?

Цяжкая была на Беларусі сёлета восень, зіма абяцае быць яшчэ цяжэйшай. Віруюць цэны, ды ўсё вышэй і вышэй. Нядаўняе-ж колькідзённае па волі Прэзыдэнта зьніжэньне цэнаў на хлеб і малако справакавала яшчэ большую інфляцыю. На заводах людзі працуюць пры тэмпэратуры плюс 9 градусаў Цэльзія. Няма сродкаў на ацяпленьне. Заробку ледзь хапае на вельмі сьціплыя харчы. З новага году чакаецца пятнаццаціразовае павышэньне аплаты за кватэру. Чым плаціць? Як жыць? Выпісаць якую газэту? Дзе ўжо там! Не да палітыкі! Аднак...

29 лістапада ў Менску на пляцы Незалежнасьці каля будынку гарсавету (мэрыі) стаяла купка людзей з плякатамі ў абарону навучаньня ў школах на расейскай мове. Былі там і дзеці. Пікет! І ведама-ж — тэлебачаньне, прэса. «Я люблю Белоруссию, но хочу учиться по-русски», — прапішчэла ва ўслужліва падстаўлены мікрафон шустрая малеча з коскамі і ўзьняла вочы на маму: ці добра-ж хаця сказала? Нічога сабе «любовь».

Румянатварая жанчына ў добрым кажусе сфармулявала мэту пікетаваньня наступным чынам: «Хочу, чтобы мои дети выросли образованными». Шавіністычны падтэкст яе выказваньня відавочны: выходзіць навучаньне на дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь — ніжэйшай пробы? Але самае цікавае ў тым, што ніхто іх, бедных пікетчыкаў, не пазбаўляе магчымасьці вучыць дзяцей на якой хочуць мове. Ці ня ў кожнай школе г. Менску, пачынаючы зь першае клясы, ёсьць клясы з расейскаю мовай навучаньня. А з другой клясы ўсе школьнікі абавязкова вывучаюць у дадатак да беларускай, расейскую мову, ды яшчэ й літаратуру.

Відавочна, што праз пікетаваньне правакуецца штучны канфлікт, найперш патрэбны малойчыкам з «Славянского собора Белая Русь», «Либерально-демократической партии» Жырыноўскага, фашысцкай зграі Баркашова, якія не перастаюць паўтараць: «Наша родина — от Бреста до Курил». А магчыма гэты канфлікт патрэбны і дзяржаўным структурам. Нездарма-ж першая асоба нашай дзяржавы ў кожным выступе па тэлевізіі зьневажае беларускую мову, лае нацыяналістаў. Праўда, апошнім часам больш крытыкуюцца «национальные демократы». Магчыма, хутка ў лексыконе дзяржаўных асоб зьявіцца слова «нацдемы», а там ужо і да Курапатаў недалёка.

Адначасна з пратакольнымі гульнямі ў Маскве, мэта якіх — пазбавіць Беларусь эканамічнай незалежнасьці, ідзе шалёны наступ на беларускую мову, гісторыю, культуру, зьневажаецца і топчацца душа народу. Скажэце, у якой краіне можа быць такое, каб кіраўнікі дзяржавы зьвярталіся да грамадзян на недзяржаўнай мове? У такіх варунках у справе адраджэньня й захаваньня нацыянальнай сьведамасьці беларусаў надзвычай вырастае роля нацыянальнай адукацыі. Ці маюць беларусы нацыянальную адукацыю ў сваёй незалежнай дзяржаве? Дазволю сабе прывесьці — няхай шаноўныя чытачы мне прабачаць — даволі вялікую вытрымку са «Звароту Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Савецкага раёна г. Менска да Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь» ад 4 лістапада 1994 году.

«Рада вымушана адзначыць, што сёньня беларусы па-ранейшаму ня маюць магчымасьці атрымліваць адукацыю ў ВНУ на роднай мове. Тыя выкладчыкі, якія перайшлі на белару-

*(Працяг на 2-й ст.)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. за год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, за якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ЦІ ВЫЖЫВЕМ?

*(Заканчэньне зь 1-й ст.)*

выкладчыкі, якія перайшлі на беларускую мову, часта працуюць у няспрыяльных умовах, сустракаюць супраціў і маральны ўціск з боку адміністрацыі і калег, як у былыя часы. У той час двухмоўнае выкладаньне складае цяжкасьці для студэнтаў. Сытуацыя, якая склалася, зьяўляецца вынікам неакрэсьленай дзяржаўнай палітыкі і незацікаўленасьці дзяржаўных асоб у беларускай нацыянальнай школе. На жаль, вельмі часта складанасьці ствараюцца чыноўнікамі-небеларусамі». («Наша слова», нр. 48, 1994).

Ну, а як жывецца беларускай школе? Цяперашні Міністр адукацыі сп. Стражаў ставіць пытаньне аб тым, каб пераглядзець школьныя праграмы і падручнікі гісторыі Беларусі, «апусьціць» падзеі, якія не даспадобы нашаму ўсходняму суседу(бітва пад Воршай, Слуцкае паўстаньне і інш.). Новыя праграмы і падручнікі беларускай літаратуры ігнаруюць зьвесткі пра жыцьцё пісьменьнікаў, толькі бегла ўспамінаюць нашых першых асьветнікаў Еўфрасіньню Полацкую і Кірылу Тураўскага, старажытную беларускую літаратуру, творчасьць рэпрэсіяваных пісьменьнікаў і пісьменьнікаў на эміграцыі. Відаць, таму што гэта найкаштоўнейшы матэрыял для нацыянальнага ўзгадаваньня вучняў. У беларускіх школах і клясах вучні ўсё яшчэ жывуць у расейскамоўнай стыхіі. Беларускую мову чуваць толькі на ўроках, і то не на кожным. Многія прадметы, хоць ёсьць падручнікі на беларускай мове, выкладаюцца па-расейску. У школе, дзе вучыцца мой унук, у 9-й клясе геаграфію Беларусі настаўнік выкладае па-расейску і, хоць у вучняў беларускія падручнікі, патрабуе адказаў і канспэктаў на расейскай мове. І такіх прыкладаў ня зьлічыць. У школах востра ўстае праблема патрыятычнага ўзгадаваньня. Але тут усё залежыць ад таго, павагу і замілаваньне да якой радзімы выхоўвае настаўнік. Для адных гэта — «Великий Советский Союз», для іншых — проста зямля, на якой яны жывуць, і толькі для нямногіх — незалежная Беларусь з багатай культурай і слаўнай гісторыяй. Адміністрацыя школаў ды й вышэйшае кіраўніцтва не прыдаюць гэтаму разладу ніякай увагі. А бацькам, затурканым жыцьцёвымі турботамі і ў бальшыні пазбаўленым нацыянальнай сьведамасьці, няма да гэтага ніякай справы..

Выснова з маіх сумных нататкаў адна: беларусам патрэбна мэтанакіраваная свая, беларуская нацыянальная дзяржаўная палітыка. Безь яе — ці выжывем?

*Менск, сьнежань 1994 г.*

**Рагнеда Грышкевіч-Аляхновіч**

## *БЕЛАРУСКІЯ СПАРТСМЭНЫ РЫХТУЮЦЦА ДА АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯЎ У АТЛАНЦЕ*

Мінулы год быў вельмі пасьпяховым для спартсмэнаў Беларусі. Каманды беларускіх атлетаў удзельнічалі ў спаборніцтвах самага высокага ўзроўню, уключаючы Алімпійскія гульні ў Лілегамэры (Нарвэгія), і практычна ва ўсіх зь іх дасягнулі бліскучых вынікаў.

Аліпмійскія мэдалі ў Лілегамэры (Ігар Жалязоўскі, канькі, і Сьвятлана Перамыгіна, біятлон) прынесьлі беларускай зборнай, якая ўвогуле ўпяршыню ўдзельнічала ў «белай» Алімпіядзе, трынаццатае агульнакаманднае месца. Гэта быў сапраўды цудоўны старт для ўсяго спартыўнага году.

На апошнім чэмпіянаце Эўропы па гімнастыцы сярод мужчын, які адбыўся ў мінулым чэрвэні, беларускія атлеты пацьвердзілі сваю рэпутацыю мацнейшых у сьвеце. Чэмпіён сьвету Іван Іванкоў зь Менску выйграў і званьне лепшага ў Эўропе. А беларуская зборная, у якую ўваходзілі таксама шасьціразовы пераможца Алімпійскіх гульняў у Барсэлёне Віталь Шчэрба і іншыя гімнасты, заняла першае месца ў камандных спаборніцтвах.

У лістападзе 1994 году двухразовы пераможца Алімпійскіх гульняў па цяжкай атлетыцы Аляксандр Курловіч з Гродна ня толькі стаў першым на сусьветным чэмпіянаце ў Турцыі, але і ўстанавіў тры сусьветных рэкорды ў супэрцяжкай вагавай катэгорыі.

Усяго-ж у мінулым годзе спартсмэны Беларусі заваявалі 21 залаты, 21 сярэбраны і 27 бронзавых мэдалёў на сусьветных чэмпіянатах, а таксама 20 залатых, 38 сярэбраных і 44 бронзавыя мэдалі на чэмпіянатах Эўропы.

Цяпер атлеты Беларусі рыхтуюцца да Алімпійскіх гульняў-96 у Атланце (ЗША). Маючы добрыя дасягненьні ў шэрагу такіх летніх спартыўных дысцыплін, як барацьба, гімнастыка, гандбол, лёгкая і цяжкая атлетыка, плаваньне і іншыя, яны спадзяюцца ўстанавіць новыя алімпійскія рэкорды і заваяваць новыя алімпійскія мэдалі і на Паўночнаамэрыканскім кантынэнце.

*(Прэскамунікат пасольства РБ, Вашынгтон, 6 студзеня 1995 г.)*

## БЕЛАРУСЫ-ЭМІГРАНТЫ — СЯБРЫ НОВАЙ НАВУКОВАЙ УСТАНОВЫ

Др. Вітаўт Кіпель і др. Барыс Кіт былі выбраныя ў акадэмікі нядаўна створанае Міжнароднае Акадэміі Навук Эўразіі. Сядзібы гэтае ўстановы знаходзяцца ў Менску і Маскве, хоць зарэгістраваная акадэмія ў Менску, а прэзыдэнтам яе зьяўляецца беларускі вучоны Аўген Шырасў.

## САБАТАЖ ЗАКОНУ АБ МОВАХ

З нагоды пятых угодкаў Закону аб мовах (прыняты 26 студзеня 1990 г., увайшоў у сілу 1 верасьня таго-ж году), які абвесьціў беларускую мову дзяржаўнай, у друку зьявіўся шэраг артыкулаў аб стане беларускай мовы у рэспубліцы. Абраз атрымваецца несуцяшальны (зрэшты, як па ўсіх іншых дзялянках жыцьця). «Народная газэта» (2 лютага 1995), у рубрыцы «Нельга маўчаць», піша:

«Што-ж зроблена за пяць гадоў? Вельмі і вельмі мала. Чыноўнікі ўсіх рангаў адкрыта сабатуюць закон. З усіх пунктаў гэтага дзяржаўнага дакумэнту, ня выкананы ніводзін. У многіх школах толькі адкрылі клясы, а ўжо рапартуюць, што яны нібыта беларускамоўныя. Апошнім часам усё мацней праводзіцца русыфікацыя».

Асноўная розьніца паміж палажэньнем з мовай на пачатку 1990 і 1995 гадоў, як выглядае, гэта цяперашні агульны грамадзкі лямант, які прыйшоў на зьмену колішняму маўчаньню. Беларусы вярнулі сабе голас, дык можа вернуць і мову.

## ПЁТР КРАЎЧАНКА Ў АБАРОНЕ МОВЫ

Былы міністар замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, які сёньня займае становішча прэзыдэнта фонду эканамічнага і палітычнага прагназаваньня «Стратэгія», выступіў у друку зь вялікім і вельмі добра аргумэнтаваным артыкулам у абарону беларускае мовы. Трэба нагадаць, што ў 1989 г. сп. Краўчанка браў актыўны ўдзел у распрацоўваньні Закону аб мовах.

«Народная газэта» за 1 лютага 1995 г. (тыраж: 552 418 экз.) зьмясьціла вялікі Краўчанкаў артыкул, пад заг. «Сапраўдная любоў да сваёй краіны немагчымая бязь любові да сваёй мовы», з гэткай заўвагай ад рэдакцыі: **«Раім прачытаць гэты артыкул у кожнай сям'і, у кожным школьным класе, у кожнай студэнцкай групе, у кожным працоўным калектыве».**

Шкада, што ў «Беларусе» не стае месца, каб перадрукаваць увесь гэты красамоўны артыкул — ён заслугоўвае на гэта — а даводзіцца абмежавацца толькі дзьвюма вытрымкамі.

П. Краўчанка піша:

«Тое, што А. Г. Лукашэнка цураецца беларускай мовы, ня можа быць прызнана нармальнай зьявай. Уявеце сабе, што прэм'ер-міністр Іспаніі размаўляе са сваім народам на партугальскай мове, а Француа Мітэран —на італьянскай. Перакананы, што такая скандальная сытуацыя вырашылася-б у любой краіне вельмі хутка на карысьць народу — носьбіта мовы. (. . .)

«А ў нас? Я не паверыў вачам, калі прачытаў тое, што было сказана 1 сьнежня мінулага году А. Г. Лукашэнкам у Гомелі на сэсіі гарсавету: «Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, ня могуць рабіць нічога, як толькі размаўляць на беларускай мове. Таму, што па-беларуску нельга выказаць нешта вялікае. Беларуская мова — бедная мова. У сьвеце існуе толькі дзьве вялікія мовы — гэта руская і англійская». Якая абраза тых, хто жыве сёньня! Якая абраза ўсяго нашага народу — носьбіта мовы, які на працягу стагодзьдзяў сеяў, будаваў, бараніў Бацькаўшчыну, стварaў выдатныя ўзоры мастацкіх твораў, навуковыя вынаходзтвы, гадаваў дзяцей і іншай мовы ня ведаў, акрамя беларускай. А як быць з нашай сёньняшняй вёскай, якая, нягледзячы на ўсё, захоўвае беларускасьць? Што, і яна нічога ня ўмее, у тым ліку працаваць? Нямецкі пісьменьнік Г. Ляўбэ, сябра Г. Гэйнэ, аднойчы трапна сказаў: «Нападаць на мову народу — гэта значыць нападаць на яго сэрца». (. . .)

П. Краўчанка, аднак, у пэсымізм ня кідаецца, як пра гэта сьветчыць канцоўка ягонае абароны мовы:

«Закончыць свой артыкул хачу на мажорнай, усхваляванай ноце. Зусім нядаўна, у сьнежні мінулага году, на чыгуначным вакзале гораду Маладэчна быў проста расчулена адным выпадкам. Побач са мной сядзелі двое: маці сярэдніх гадоў і маленькая дзяўчынка — Тамарка (так яна сябе называла). На маіх вачах адбыўся цуд: дзевяцігадовая дзяўчынка вучыла маці, ці хутчэй прымушала яе, успамінаць словы, прымушала ўспамінаць родную мову. Яна гуляла ў словы, называла іх па-беларуску, задавала маці пытаньне і хуценька сама адказвала. Прычым рабіла гэта нарасьпеў, прыгожа, вельмі, вельмі натуральна, зь вялізарным задавальненьнем. У дзяўчынкі блішчэлі вочкі, яна часамі залівалася серабрыстым сьмехам (так могуць сьмяяцца толькі дзеці) і, крышку пакалыхваючыся, гаварыла нарасьпеў: вавёрка, панчошкі, столь. «Мама, як гэта будзе на рускай мове?» І, не чакаючы адказу, перакладала іх на рускую мову. Маці крышку сердавала, але, здаецца, ня вельмі. Я сядзеў побач, затаіўшы дыханьне. Праз хвілін 15-20 яны хуценька падхапіліся і пайшлі на цягнік, які, як я зразумеў, адпраўляўся на Ліду.

«Праводзячы іх вачыма, я сказаў пра сябе: «Добрага шляху, дарагая Тамарка! Добрай дарогі, нашы дзеткі! Не, не загіне наша мова, калі ласкава, пяшчотна Маці-Радзіма ўзгадуе іх».

Між іншага, сп. Краўчанка цытуе ў сваім артыкуле частку вершу Натальлі Арсеньневай «Жыве Беларусь» («Наша мова — выкута з золата»), згадвае, як яму «запала ў сэрца» выступленьне Раісы Жук-Грышкевіч на І-м зьезьдзе беларусаў сьвету («Ці многа мы хочам? Толькі адно — захавайце нашу родную мову»).

П. Краўчанка, наколькі нам ведама, зьбіраецца выстаўляць, калі яшчэ ня выставіў, сваю кандыдатуру ў народныя дэпутаты па Маладэчанскай выбарчай акрузе (выбары ў Вярхоўны Савет адбудуцца 14.05.1995). Абарона беларускай мовы, такім чынам, будзе важнай часткай ягонай перадвыбарчай плятформы.

Газэта «Голас Радзімы» (9 лютага 1995) падала, што Пётр Краўчанка стаўся новым сябрам Беларускае сацыял-дэмакратычнае грамады.

## РУСЫФІКАЦЫЙНАЯ ПАГРОЗА ПЕРШАКЛЯСЬНІКАМ

Удзельнікі «круглага стала» «Беларуская школа на шляху адраджэньня», праведзенага ў Менску 23 сьнежня 1994 г., у звароце да Міністра адукацыі Васіля Стражава выказалі «зьдзіўленьне і глыбокае абурэньне» тым, што «Міністэрства адукацыі і навукі прымае сьпешныя патаемныя захады, каб ужо зь 1 верасьня 1995 году пачаць вывучэньне расійскай мовы ў беларускамоўных школах зь першага класа».

У адным з 16 пунктаў прынятае «круглым сталом» ухвалы сказана:

«Ні ў якім разе нельга пачынаць вывучэньне расійскай мовы зь першага класа ў беларускіх школах. Гэта супярэчыць усім псыхоляга-пэдагагічным установкам і нормам, зводзіць на нішто самую ідэю нацыянальнай школы. Прапануем пераглядзець вучэбны плян для беларускамоўнай школы, прадугледзець пачатак вывучэньня расійскай мовы не раней, чым зь 5-га класа». («Наша слова», нр. 6, 8 лютага 1995)

*Да 100-годзьдзя ад нараджэньня*

# ГЕН. ФРАНЦІШАК КУШАЛЬ

*(16.II.1895–25.V.1968)*



*(Гэта ўспаміны д-ра В. Тумаша, якімі ён падзяліўся зь сябрамі значна раней, але якія толькі цяпер публікуюцца.)*

Пачынаючы ад 1918 г., году апавешчаньня паўстаньня Беларускае Народнае Рэспублікі, БНР, і аж да свае сьмерці 50 гадоў пазьней — роўна праз поўстагодзьдзе — ген. Кушаль быў адным з набольш дзейных удзельнікаў блізу ўсіх важнейшых беларускіх вайсковага характару задумаў і пачынаў. Імя і прозьвішча Кушаля зьвязанае, дзеля гэтага бадай з усімі важнейшымі падзеямі ў галіне беларускай вайсковасьці XX стагодзьдзя.

Першы раз сустрэцца ды пазнаёміцца з ген. Кушалем давялося мне ў Вільні перад вайной. Тады ён, капітан польскага войска, спэцыялісты ў галіне кулямётнае аўтаматнае зброі, зь месцам вайсковае службы недзе блізка польскае мяжы зь Нямеччынай, меў вельмі рэдкую нагоду — звычайна толькі ў часе летняга водпуску — і то ня кажнага лета — наведаць сваіх родных у Дорах Валожынскага павету. Разам, праездам, зазірнуць у Вільню, у тамашнія беларускія арганізацыі й установы, пабачыцца ды пагаварыць зь некаторымі зь беларускіх дзеячоў, даведацца, што новага на фронце беларускае нацыянальнае дзейнасьці й пад Польшчаю, і наагул.

Гэтым самым часам я быў у Вільні яшчэ студэнтам, канчаў унівэрсытэт, а адначасна належаў да рэдакцыйнае калегіі культурна-грамадзкага часапісу «Беларускі летапіс», часапісу, у якім друкаваліся й вершы паэткі Натальлі Арсеньневай. Душою, выдаўцом і галоўным рэдактарам часапісу быў пасьлейшы кіраўнік дзяржаўнага рэспубліканскага хору БССР Рыгор Шырма, тады рэгент царкоўнага хору найстарэйшае, збудаванае яшчэ за в.кн. Альгерда, праваслаўнае царквы Вільні, калісьці саборнае царквы мітрапаліта ВКЛ, — Прачысьценскага сабору. Вось у вадным з парафіяльных дамоў гэтае царквы меў, як рэгент царкоўнага хору, сваё памешканьне й Р. Шырма. Быў гэта, адначасна, і адрас рэдакцыі часапісу «Беларускі летапіс». Паколькі ў часе наведзінаў Вільні кап. Кушалем і ягонай жонкай, — было гэта ці ня летам 1938 г. — дзеля нейкае важнае прычыны рэдактар Р. Шырма ня мог быць дома, ён папрасіў сустрэцца з далёкімі гасьцямі ды пагаварыць мне. Адна са справаў, якая нас рупіла ды якую абгаварвалі, была справа выданьня друкам нова прырыхтаванага зборніка вершаў Н. Арсеньневай «Жоўтая восень». Грошаў на гэта рэдакцыя часапісу ня мела, за імі разглядалася, ды аж да выбуху вайны грошы гэтыя так і не знайшліся, і зборнік ніколі не паказаўся друкам.

Справа другая, пра якую мы з кап. Кушалем тады найдаўжэй гаварылі, гэта агульнае вельмі цякое палажэньне беларускае нацыянальнае справы й на землях Заходняе Беларусі, і ў БССР. Польская адміністрацыя, сымбалем яскравым якое быў ведамы тагачасны віленскі ваявода Бацянскі, ліквідавала адну за другой беларускія арганізацыі, закрывала ўсе важнейшыя часапісы й газэты, пасьпела зачыніць ужо ўсе беларускія школы, у стадыі ліквідацыі была й апошняя беларуская сярэдняя школа — Віленская Беларуская Гімназія. Трагічна-сумныя весткі даходзілі ў Вільню і з БССР, зь Менску, весткі пра масавы прасьлед, арышты ды нішчэньне беларускіх навукоўцаў, пісьменькікаў, культурных дзеячоў, студэнтаў — усяе нацыянальна актыўнае інтэлігенцыі. А ў цэлай Эўропе пахла ўжо моцна порахам надыходзячай чароднай сусьветнай вайны, палажэньне ўсюды было напружанае, трывожнае.

Вось у нашай гутарцы пра ўсе гэтыя падзеі я першы раз і зь вялікім зацікаўленьнем прыглядаўся да маладога тады яшчэ капітана Кушаля. Ужо тады кінулася мяне ў вочы ягоная афіцэрская стрункая пастава, якую захаваў ён аж да восьмага дзесятка свайго жыцьця, аж да сьмерці. Засталося па гэтай гутарцы ў мяне найлепшае ўражаньне аб ім як аб чалавеку, і як аб гарачым патрыёце свайго краю й народу, які, хоць і здалёк, ды зырка сочыць за ходам беларускіх справаў, імі жыве, за іх перажывае.

Гады тры прайшлі ад гэтага нашага першага спатканьня, пакуль давялося сустрэцца нам другі раз, сустрэцца пры зусім іншых дэкарацыях на гістарычнай арэне Эўропы. Было гэта недзе позным жнівенем 1941 г., усяго колькі тыдняў пасьля выбуху савецка-нямецкае вайны. Я тады быў у Менску, Менску разьбітым, спаленым, разграбленым, пакінутым бальшынёю сваіх жыхароў. Калі пасьля колькіх першых тыдняў удалося ўдалося урэшце галоўныя жыцьцёвыя справы места — патушыць пажары, наладзіць вадаправоды ды даць жыхарам ваду, падправіць электрастанцыю, давесьці да ладу паніштаньня электрычныя правады ды даць сьвятло й энэргію, пусьціць нанава ў ход важную для жыцьця места асэнізацыю, — пасьля гэтага трэба было думаць і пра яшчэ адну жыцьцёвую справу — справу бясьпекі жыхарства места ды ўладу. Не бяз труднасьцяў была атрыманая згода акупацыйных нямецкіх уладаў на арганізаваньне свае меставое паліцыі. Ахвотнікаў паступіць у паліцыю, хоць і не заўсёды надзейных, хапала. Нестава затое адпаведна вышкаленага свайго беларускага даверанага кіраўніцтва, сваіх афіцэрскіх кадраў.

Вось гэтам часам, ня помню хто, але перадаў мне вестку, што колькідзесят кілёмэтраў на захад ад Менску, у Дорах, прабывае капітан Кушаль, якога колькі тыдняў перад выбухам вайны звольнілі з маскоўскае вязьніцы Лубянкі ды перасланы пад нагляд мясцовых органаў НКВД. Гэтым самым прыблізна часам вярнулася з Казахстанскае ссылкі з сынамі й яго жонка, паэтка Натальля Арсеньнева.

Колькі дзён пазьней я ехаў ужо аўтам у Доры, каб пабачыцца з кап. Кушалем ды мець зь ім маю другую гутарку, гутарку пра дапамогу пры арганізацыі курсаў для кіраўнічых паліцыйных кадраў. Была ў далейшым пляне ўжо думка й пра арганізацыю курсаў афіцэрскіх, вайсковых.

У раскінутых хутарным ладам на ўраджайнай зямлі Дорах хутка мне ўдалося знайсьці кап. Кушаля і ўсю ягоную сям'ю. Гутарка гэтам разам у нас была кароткая — кап. Кушаль зразу-ж згадзіўся на пераезд у Менск, каб рабіць што ў межах ягоных магчымасьцяў і чаго патрабавала трывожная гістарычная пара. Ужо колькі дзён пазьней мы зь ім аглядалі апушчаныя ды аграбленыя будынкі нейкіх менскіх прадпрыемстваў, — шукалі памяшчэньне пад будучыя афіцэрскія курсы. Пачыналася рэгістрацыя ды падбор кандыдатаў. Пра гэтую дзейнасьць, якая з часам давяла да стварэньня кадраў і Беларускае Краёвае Абароны, гаварыць тут ня буду, іе знаюць лепш іншыя. Я хутка пакінуў Менск ды чуў пра ўсё толькі здалёк.

Мае далейшыя спатканьні з ген. Кушалем належаць ужо да гадоў эміграцыйных. У Нямеччыне бачыў яго толькі рэдчас, бо прабывалі мы далёка адзін ад другога ў розных акупацыйных зонах. Бліжэй затое пазнаў нябожчыка тут у Нью-Ёрку, пазнаў і як беззаганнага характару чалавека, і як грамадзкага дзеяча. На сваім кажным грамадзкім становішчы у межах магчымасьцяў ды сваіх здольнасьцяў ген. Кушаль рабіў заўсёды, што мог, працаваў аддана, бескарысьліва, ахвярна.

Ды не пра грамадзкую дзейнасьць генэрала буду тут гаварыць — яе ўсе тут ведаюць, а пра тую ізноў галіну працы, якая найперш у гісторыі застанецца зьвязаная зь ягоным імем — пра вайсковую. І тут, у Нью-Ёрку, калі сам працаваў звычайным работнікам ды абладаваны быў заўсёды рознымі грамадзкімі справамі, ген. Кушаль знаходзіў час і магчымасьць нешта зрабіць і для беларускае вайсковае справы.

Калі ў часе невалённым ня было магчымасьці служыць свайму народу аружжам, Францішак Кушаль, як чалавек вайсковы, на тым самым вайсковым адрэзку нацыянальнага фронту служыў свайму народу пяром. Апрача шмат розных прынагодных вайсковага зьместу артыкулаў, што друкаваліся ў газэтах, вёў ён і паважнейшую навукова-дасьледную працу ў рамах дзейнасьці Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, сябрам якога ён быў, — сваю працу ён вёў у двух галоўных кірунках. Найперш заўсёды ён дбаў пра тое, каб замацаваць на пісьме, а па магчымасьці й удакумэнтаваць, усё тое, што сам знаў пра гісторыю беларускае вайсковае справы XX стагодзьдзя, справы, якая пераважна была зьвязаная зь ягоною асобай. Пачынаючы ад дзейнасьці менскае Беларускае Вайсковае Камісіі 1919 г., у якой Ф. Кушаль працаваў разам з Алесем Гаруном-Прушынскім, былым паслом Сымонам Рак-Міхайлоўскім ды іншымі, а канчаючы на апошняй вайне, ген. Кушаль даў каштоўныя вопісы беспасярэдняга сьветкі й актыўнага дзеяча ўсіх важнейшых беларускіх вайскавых пачынаньняў зьвязаных з двумя сусьветнымі войнамі. Найперш, ген. Кушаль апрацаваў ды ўдакумэнтаваў грунтоўны нарыс гісторыі беларускае вайсковасьці XX ст., нарыс, час на друк якога яшчэ ня прышоў, бо хоць гэта й гісторыя, — ды й сам аўтар адышоў ужо ў гісторыю, — але шмат дзейных асобаў гэтае гістарычнае драмы яшчэ ў жывых, і ня ўсё публікаваць ужо пара. Даў, між іншым, ген. Кушаль і вельмі каштоўныя, пераважна друкаваныя, успаміны, пра гэткіх выдатнейшых дзеячоў беларускае вайсковасьці, як Алесь Гарун-Прушынскі, ген. К. Езавітаў, капітан Мікула, ген. Булак-Булаховіч ды іншых.

У галіне гісторыі беларускае вайсковае справы ў мінулым, на навуковых паседжаньнях Інстытуту ген. Кушаль прачытаў больш дзесяці рэфэратаў пра войны беларускага народу ў мінулым, пачынаючы ад XIX ст. Глядзеў я заўсёды з подзівам і пашанаю на гэтую дасьледную працу беларускага вайскавіка, пачатую аж на семдзесятым дзесятку жыцьця, ды дасьледнікам, які ўсё жыцьцё перад гэтым меў справу з муштраю, маршамі, жаўнерамі ды зброяй, а пры канцы — фабрычнай работай, а не з акадэмічна-дасьледнай працай. У Ньюёркскай Публічнай Бібліятэцы ген. Кушаль шукаў у паважнейшых працах гісторыкаў расейскіх ды польскіх фактаў ды вопісаў бітваў нашых прашчураў у мінулых стагодзьдзях. Хоць рэфэраты гэтыя й былі абаснаваныя пераважна на матар'яле з другое рукі, а не беспасярэдня на жаролах, тым ня менш апрацаваныя яны былі рупна, унятыя цікава, папулярна, матар'ял сабраны быў каштоўны. Некаторыя з гэтых нарысаў друкаваліся ў газэтах, у скарачэньні.

*(Працяг на 6-й ст.)*

# ГЕН. Ф. КУШАЛЬ

*(Заканчэньне з 3-й ст.)*

Гэта першая, гэта пiянерская спроба паважнейшага сыстэматычнага вывучэньня ваенных справаў мiнулага беларускага народу.

Паколькi гэтая праца цяпер абарваная, трэба — у першую чаргу каму-небудзь з нашых маладых вайскоўцаў, — скласьцi бiблiяграфiю ўсяе друкаванае спадчыны ген. Кушаля — ягоныя артыкулы-нарысы пра войны, паходы, бiтвы, пра войны нашых прашчураў з Крыжакамi ды Мечаносцамi, пра бiтвы пад Грунвальдам ды над Ворксклай, пра зьнiшчальныя крывавыя наезды на беларускiя землi Iвана Грознага, пра магiлеўскае паўстаньне ды шмат iншых. Гэта ўсё каштоўная спадчына для нашых будучых гiстарыяграфаў вайсковае галiны.

Дыку асобе ген. Кушаля выбыў з нацыянальнага фронту жывых ня толькi актыўны вайскавiк, зь якiм зьвязаны 50 год беларускае вайсковае дзейнасьцi, ня толькi вайсковы арганiзатар-iнструктар, што калiсьцi апрацоўваў беларускiя вайсковыя рэгуляміны ды нормы каманды вайсковае муштры, ня толькi кiраўнiк-камандзiр БКА, але й рупны **летапiсец** гiсторыi новае беларускае вайсковасьцi ды **першы** сыстэматычны дасьледнiк вайсковае й ваеннае гiсторыi беларускага народу.

Мы заўсёды нейк менш разумеем i цэнiм людзей, што жывуць сярод нас, з намi. Iх заўсёды куды лепш ацэньвае пазьнейшая гiсторыя. Да гэткiх належыць i ген. Кушаль. У беларускай гiсторыi ён застанецца напэўна, як важная гiстарычная фiгура на адрэзку вайсковае справы. Пра яго не забудуцца будучыя пакаленьнi, як i не забываемся мы сяньня пра Слуцкi народны ўздым й ягоных герояў.

# МОЙ ПРАБЕГ ВАЙСКОВАЙ СЛУЖБЫ

У маi 1915 году я быў мабiлiзаваны ў расейскую армiю й прыдзелены ў 29-ты запасны полк у горадзе Варонежы.

1-га жнiўня 1915 году, пасьля рэкруцкага вышкаленьня я быў адкамандараваны ў падафiцэрскую палкавую школу, якую й скончыў 15-га кастрычнiка, атрымаўшы ступень малодшага унтэр-афiцэра (капраля).

20-га кастрычнiка 1915 году я быў высланы ў афiцэрскую школу ў г. Палтаву i пасьля экзаменаў з агульнае й вайсковае ведаў быў залiчаны юнкерам у гэтую школу.

1-га лютага 1916 году я скончыў прысьпешаны дзеля ваеннага часу курс згаданае школы. Мне была наданая ранга прапаршчыка (малодшы лейтэнант). У гэтым-жа часе я быў прызначаны ў 155 запасны полк у Астрахань дзеля набыцьця практыкi ў камандаваньнi зьвязамi й ротай.

1-га мая 1916 году я быў выпраўлены на заходнi фронт ваяваць супраць немцаў.

На заходнiм фронце я камандваў ротай, браў удзел у шматлiкiх цяжкiх баёх зь нямецкай армiяй. Атрымаў дзьве баёвыя ўзнагароды — Анну трэцяй ступенi зь мячамi й бантам i Станiслава трэйцяй ступенi таксама зь мячамi й бантам. На фронце я прабыў бесьперапынна аж да Кастрычнiцкай рэвалюцыi. Апошняя мая вайсковая ранга ў царскай армii была — штаб-капiтан.

Пасьля Кастрычнiцкае рэвалюцыi i поўнага развалу царскае армii, я вышаў з войска й жыў у Менску й Вiльнi, бяручы актыўны ўдзел у беларускай грамадзкай i палiтычнай працы.

У 1919 годзе польская армiя ў вайне з новаарганiзаванай Чырвонай бальшавiцкай армiяй заняла была Беларусь па раку Бярэзiну. Галоўнакандуючы польскай армiяй i ён-жа галава новапаўсталае польскае дзяржавы — Язэп Пiлсудзкi — дзеля рэалiзацыi сваiх фэдэрацыйных плянаў, дазволiў беларусам на арганiзацыю беларускiх нацыянальных вайсковых аддзелаў. З гэтай мэтай Пiлсудзкi паклiкаў да жыцьця адмысловую Беларускую Вайсковую Камiсiю з прадстаўнiкоў,вызначаных беларускiмi арганiзацыямi. Беларускiм Нацыянальным Камiтэтам у Вiльнi быў запрапанаваны ў згаданую камiсiю i я.

У Беларускай Вайсковай Камiсii я працаваў праз усю польска-бальшавiцкую вайну, як кiраўнiк арганiзацыйнага аддзелу. Праца мая была выключна штабная.

Пасьля заканчэньня польска-бальшавiцкай вайны i лiквiдацыi беларускае вайсковае акцыi ў Польшчы, я паступiў у польскую армiю ў характары прафэсiйнага афiцэра. Самперш я быў улучаны ў 80-ты пяхотны полк, а пасьлей — у 66-ты полк.

У 1922 годзе я скончыў афiцэрскую унiфiкацыйную школу ў Варшаве, варочаючыся пасьля гэтага назад у полк.

У 1924 г. я быў пасланы ў школу цяжкiх кулямётаў у Торунi i скончыўшы яе праз 6 месяцаў, вярнуўся ў свой полк, дзе быў прыдзелены як камандзер да палковае падафiцэрскае школы для падрыхтоўкi падафiцэраў для ротаў цяжкiх кулямётаў. На гэтым становiшчы я заставаўся да 1932 году.

У 1932 годзе я быў пераведзены ў Хэлмiнскi Кадэцкi Корпус на становiшча камандзера роты.

У 1937 годзе я быў пераведзены ў 13-ты пяхотны полк у Пултуску на становiшча заступнiка камандзера дывiзiйнай школы падхаронжых рэзэрваў.

У 1939 г. пасьля выбуху польска-нямецкае вайны, я. быў накiраваны ў мабiлiзацыйны цэнтар матарыяльнага забясьпечаньня армii ў Малкiнi. Адступаючы пад напорам нямецкае армii ўсё далей на ўсход i поўдзень, я апынуўся ў Львове й атрымаў там пад каманду батальён у ахвотнiцкiм корпусе абароны Львова пад камандай генэрала Янушайцiса.

17-га верасьня 1939 году, калi савецкая армiя наблiзiлася да атакаванага з захаду немцамi Львова, на ўсходзе — камандзер Львоўскага корпусу ген. Лянгер капiтуляваў на карысьць армii СССР i выдаў загад абаронцам Львова скласьцi зброю прадстаўнiком савецкае армii.

Гэткiм чынам я, зь iншымi афiцэрамi — абаронцамi Львова, трапiў у савецкi палон.

У савецкiм палоне я сядзеў у лягеры Старабельск ад кастрычнiка 1939 году да красавiка 1940 году, пасьля чаго прабыў колькi тыдняў у лягеры Паўлiшчаў Бор каля Смаленску. Тут я быў арыштаваны ўладамi НКВД й вывезены ў Маскву ў Лубянскую турму, дзе ў гэтым часе сядзела шмат польскiх афiцэраў, арыштаваных, як i я, органамi НКВД ў лягерох палонных i прывезеных на Лубянку.

На Лубянцы я прасядзеў да чырвеня месяца 1941 г., калi я быў адпраўлены пад нагляд мясцовага НКВД ў месцы майго народжаньня. Неўзабаве пасьля гэтага выбухла 22 чырвеня, неспадзяваная савецка-нямецкая вайна i ўжо колькi дзён пасьля мясцовасьць, дзе я знаходзiўся, была занятая нямецкай армiяй. Гэтак я выратаваўся ад бальшавiкоў.

У 1942 годзе ў Менску нямецкiя акупацыйныя ўлады дазволiлi беларусам арганiзаваць батальёны Самааховы. Я абняў становiшча камандзера беларускiх афiцэрскiх курсаў дзеля перашкаленьня афiцэрскага складу.

Пасьля вышкаленьня трох афiцэрскiх курсаў, я заняў становiшча начальнiка штабу, якi арганiзоўваў Самааховы.

У студзенi 1944 году ў Менску была паклiканая Беларуская Цэнтральная Рада, якой было дазволена правесьцi мабiлiзацыю беларусаў у Беларускую Краёвую Абарону. Радай БЦР я быў паклiканы на становiшча начальнiка штабу, якi прыгатаваў плян мабiлiзацыi.

Пасьля правядзеньня мабiлiзацыi, той-жа Беларускай Цэнтральнай Радай я быў паклiканы на становiшча камандуючага Беларускай Краёвай Абаронай.

Пасьля адступленьня нямецкае армii з тэрыторыi Беларусi, частка аддзелаў Беларускае Краёвае Абароны апынулася на прасторы Нямеччыны. Тут мне было ўсё той-жа БЦР даручана арганiзаваць зь яе г.зв. дывiзiю «Беларусь», камандзерам якой я й стаўся.

30-га красавiка 1945 году дывiзiя «Беларусь» пад маiм камандаваньнем прабiлася праз нямецкi фронт у раёне Цвiзэля ў Баварыi й далучылася да Амэрыканскае армii.

Амэрыканцы дывiзiю разброiлi й зачынiлi ў лягер ваенна-палонных, хоць дывiзii «Беларусь» было мэтай змаганьне вылучна супраць бальшавiкоў, а не заходнiх саюзьнiкаў.

Праз усю службу ў польскай армii я быў у ранзе капiтана.

Наступныя рангi я атрымаў у Беларускiм войску, у БКА а апошнюю — генэрала — за камандаваньне дывiзiяй « Беларусь» i выратаваньне яе ад зьнiшчэньня нямецкiмi аддзеламi СС.

Нарадзiўся я 16-га лютага 1895 г. ў мясцовасьцi Першай даўнейшай Менскай губэнii.

**Францiшак Кушаль**

# 20-Я ЎГОДКI ДУШПАСТЫРСКАЙ ПРАЦЫ

**мiтр. прат. а. Васiля Андрэюка, настаяцеля парафii Божай Мацi Жыровiцкай у Гайленд-Парку, Н.-Дж.**



*Мiтрафорны пратаярэй а. Васiль Андрэюк з матушкай Ольгай у царкве Жыровiцкай Мацi Божай у Гайленд-Парку на Каляды 1994 году.*

Мiтрафорны пратаярэй а. Васiль Андрэюк нарадзiўся ў 1950 г. на Беласточчыне ў рэлiгiйнай сям'i, якая брала актыўны ўдзел у царкоўным жыцьцi. Гэта былi часы Сталiна i Хрушчова, часы няспрыяльныя для царквы i рэлiгii.

Скончыўшы пачатковую васьмiгадовую школу, Васiль Андрэюк накiраваўся ў Варшаўскую духоўную сэмiнарыю, якую скончыў у 1970 годзе. Неўзабаве пасьля гэтага страцiў свайго бацьку. Запаветам бацькi было: «Не пакiдаць царквы й веры, служыць сваёй Царкве i свайму Народу». Згодна з гэтым запаветам Васiль накiроўваецца на душпастырскую працу ў Яблачынскi манастыр.

У 1975 годзе Васiль Андрэюк жэнiцца з Ольгай Пiнчук ды рыхтуецца да самастойнай працы ў парафii. Рукапалажэньне ў дыяканы адбылося 9 сакавiка 1975 г., а ў сьвятары — 16 сакавiка таго-ж году. Два тыднi пазьней а. Васiль накiроўваецца на душпастырскую працу ў парафiю Дубiчы Царкоўныя ля Гайнаўкi. Тут а. Васiль працаваў да 1986 году, калi ён быў прызначаны ў парафiю Юшкавы Груд. У 1987 г. а. Васiль наведаў Злучаныя Штаты Амэрыкi, дзе парафiя Божай Мацi Жыровiцкай, асiрочаная ў той час, запрапанавала яму працу. Айцец Васiль, азнаёмiўшыся блiжэй з людзьмi ды праблемамi парафii, прыняў прапанову. Факт, што людзi, якiя, апынуўшыся дзеля розных прычынаў за межамi свае бацькаўшчыны, захавалi сваю веру, мову ду абычаi, зрабiў на яго вельмi моцнае ўражаньне. Ды былi i iншыя мамэнты ў жыцьцi беларускага асяродку Гайленд-Парк – Нью-Брансьвiк у Нью-Джэрзi, што зрабiлi на а. Васiля добрае ўражаньне. Ён пабачыў тут згоду памiж беларусамi праваслаўнымi i каталiкамi, цеснае супрацоўнiцтва ў грамадзкiх, палiтычных ды культурна-асьветных намаганьнях. Беларусы-каталiкi дапамагалi ў набыцьцi царкоўна-грамадзкага цэнтру ў Гайленд-Парку. Добрае ўражаньне на а. В. Андрэюка, якi мае трое дзяцей, зрабiў факт даступнасьцi вышэйшай адукацыi для iх. Шмат дзяцей беларускiх паваенных iмiгрантаў здабылi тут вышэйшую асьвету.

Айцец пратаярэй Васiль Андрэюк выдатна прычынiўся да мiрнага i прагрэсыўнага сужыцьця ў парафii i ейнага росту. Першаярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мiтрапалiт Мiкалай, дацэньваючы заслугi а. прат. Васiля, узнагародзiў яго ў 1990 г. аздобленым крыжам, а на Вялiкдзень 1993 году — мiтрай за яго доўгагадовую душпастырскую працу на бацькаўшчыне ды тут, у Злучаных Штатах, за ягоныя стараньнi, каб чалавек у сучасным сьвеце ня трацiў лучнасьцi з царквою, каб рэлiгiя была ягоным духовым правадніком.

**В.Р.**

# Зрабаваныя скарбы: пасьледкі 2-й Сусьветная вайны

Гэткая была тэма канфэрэнцыі, што адбывалася ў Нью-Ёрку ад 18-га да 22-га студзеня сёлета. Арганізатарамі канфэрэнцыі былі Каледж Барда — Вышэйшая Школа Дэкаратыўнага Мастацтва, Францускі Інстытут Амэрыкі й колькі іншых навукова-навучальных установаў. Спонсарамі канфэрэнцыі былі Фонд Сораса, розныя акадэмічныя фундацыі пры актыўнай падтрымцы Дзяржаўнага Дэпартамэнту і адпаведных міністэрстваў зацікаўленых эўрапейскіх дзяржаваў: Нямеччыны, Францыі, Бэльгіі і іншых. Агулам у канфэрэнцыі брала ўдзел каля 250-х прадстаўнікоў зь Нямеччыны, Францыі, Італіі, Бэльгіі, Галяндыі, Польшчы, Расеі, Украіны, Беларусі, ЗША, Канады. Прадстаўніком ад Беларусі быў др. Адам Мальдзіс, дырэктар Навукова-Асьветнага Цэнтру імя Ф. Скарыны ў Менску. Адзнакай канфэрэнцыі было тое, што бадай ці не ўпяршыню у паваенным часе ў ЗША сабраліся прадстаўнікі як дзяржаваў-пераможцаў, гэтак і дзяржавы пераможанай (Нямеччыны), якія сфармулявалі свае прэтэнзіі наконт загінуўшых скарбаў падалі дакладныя сьпісы дасюль ня знойдзеных скарбаў, ды прадставілі пляны-абмеркаваньні што рабіць далей. Відавочна, што найбольш гаворак, часта і эмацыянальных, было з боку Нямеччыны і Расеі.

Даклад д-ра Мальдзіса быў вельмі зьмястоўны, характэрны канкрэтнымі дадзенымі аб вывезеных зь Беларусі каштоўнасьцях ды магчымым месцазнаходжаньні гэтых каштоўнасьцяў у паваенным часе. Асабліва было падкрэсьлена дакладчыкам, што працэс вывазу каштоўнасьцяў ахапляе ня толькі ваенныя гады, але пару стагодзьдзяў, ды што каштоўнасьці, нацыянальныя скарбы вывозіліся зь Беларусі як на захад, гэтак і на Ўсход. Д-р Мальдзіс гэтаксама падкрэсьліў зьнікненьне зь Беларусі ў часе 2-е Сусьветнае вайны Крыжа Сьв. Еўфрасіньні Полацкае. Дарэчы, пасьля выступленьня д-ра Мальдзіса, дакладчыкі як амэрыканцы, гэтак і прадстаўнічка ЮНЭСКА з Парыжу абвесьцілі, што аб лёсе Крыжа Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ведама і ў амэрыканскім Дзяржаўным Дэпартамэнце, і ЮНЭСКА бярэ гэтую каштоўнасьць на ўлік прапаўшых скарбаў нацыянальнага значаньня.

Цікавыя былі даклады расейскіх навукоўцаў і афіцыйных прадстаўнікоў, у якіх былі мамэнты, што маюць значаньне і для Беларусі. Гэтак дырэктар расейскае бібліятэкі замежнае літаратуры ў Маскве, др. Екацерына Геніева, сказала, што ў 1945-1946 гадох савецкая армія прывезла ў Маскву 10 мільёнаў нямецкіх кніжак — гэтак званыя трафейныя фонды. Да цяперашняга часу «трафейныя фонды» былі супэрсакрэтныя. Але, прадоўжвала сп-ня Геніева, адразу-ж у канцы 1947-га году, тыя 10 мільёнаў нямецкіх кніжак былі разьмеркаваныя гэтак: 5 мільёнаў засталося ў Маскве й Ленінградзе, тры мільёны кніжак было адпраўлена ў Кіеў і два мільёны кніжак былі накіраваныя ў Менск, дзе яны знаходзяцца і да сёньня. Паўстае пытаньне, ці ў Беларусі тыя два мільёны нямецкіх кніжак — трафейныя фонды — былі рассакрэчаныя, ці ўсё яшчэ знаходзяцца ў зачыненых фондах?

У выніку колькідзённых сэсіяў было прынятае рашэньне, што далейшыя гутаркі аб зваротах ці вьменах скарбаў, дысляжаваных падзеямі другое сусьветнае вайны, будуць прадоўжвацца паміж зацікаўленымі бакамі (улучна зь Беларусьсю) і ў меру магчымасьцяў праблемы будуць урэгулёўвацца. Аб патрэбе гэткіх размоваў падкрасьляў д-р Мальдзіс ды зварачаўся да расейскае і іншых дэлегацыяў з просьбай аб звароце на Беларусь як першадрукаў Францішка Скарыны, гэтак і дзесяткоў твораў мастацтва, якія былі вывезеныя зь Менску ў Польшчу ў паваенным часе.

**В.К.**

## ТРАГЕДЫЯ БЕЛАРУСКІХ МУЗЭЙНЫХ І БІБЛІЯТЭЧНЫХ ЗБОРАЎ ПАДЧАС ДРУГОЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ

**Пераказ дакладу Адама Мальдзіса на міжнароднай канфэрэнцыі ў Нью-Ёрку 20 студзеня 1995 году.**

У часе Другое сусьветнае вайны загінуў ня толькі кожны чацьверты жыхар Беларусі, але былі зруйнаваныя цэлыя гарады і вёскі, панішчана шмат архітэктурных помнікаў. Хоць маемасьць гістарычных музэяў Гародні і Слоніма была захаваная менш-больш у цэласьці, агулам бяручы, у Беларусі захавалася толькі тры працэнты мастацкай калекцыяў.

Першымі месяцамі савецка-нямецкае вайны зьнік з магілёўскага музэю мастацкі шэдэўр, крыж сьв. Еўфрасіньні Полацкай. У 1944 годзе ягоная вартасьць была ацэнаваная ў шэсьць мілёнаў рублёў. Гэты скарб Беларусі — унікальны й незаменны.

Велізарныя страты былі нанесеныя менскім музэям, асабліва Мастацкай галерэі і Гістарычнаму музэю БССР. Вартасьць страчанае маемасьці з Мастацкае галерэі была ацэнаваная на дванаццаць мільёнаў рублёў золатам.

Прыблізна 1700 твораў беларускага мастацтва былі перавезеныя зь Менску ў Прусію, у тым ліку 30 іконаў з XVI і XVII стст. і каля 50 скульптураў. Калекцыі слуцкіх паясоў ды вырабаў з фарфору і шкала Урэцкае фабрыкі, бронзавыя і фарфоравыя гадзіньнікі, касьцяная разьба, мэбельныя гарнітуры ды каля сотні дываноў і габэленаў. Усё гэта было запакавана ў скрыні з напісам «Кенінсбэрг» і ніколі больш не вярнулася на Белурсь.

Частку скарбаў менскага Гістарычнага музэю павезьлі ў Нямеччыну — 19 старажытных гарматаў. Нямецкія ўлады вывезьлі ў Вену абразы, кнігі і рукапісы, зьвязаныя з габрэйскай рэлігіяй і культурай. Сп. Антон Шукелайць, які жыве цяпер у Нью-Ёрку, захаваў дэтальнае апісаньне гэтых рэчаў. У 1941 годзе нямецкі міністар Розэнбэрг загадаў перавезьці гэтую цэлую калекцыю спачатку ў Прусію, а пасьля — у Баварыю.

Як устанавіла спэцыяльная дзяржаўная камісія, у Беларусі ў перыядзе 1941-1944 гадоў было зьнішчана 100 музэяў. Прапала 83 працэнты кніжнага і рукапіснага збору Нацыянальнае бібліятэкі Беларусі. Каля 600 тамоў з гэтае бібліятэкі былі вернуты пасьля вайны з Чэхіі, Нямеччыны і Польшчы. Але каля мільёна тамоў, у тым ліку рэдкія раньнія друкі ня знойдзеныя і дагэтуль.

Некаторыя нарабаваныя ў Беларусі скарбы, знойдзеныя ў Нямеччыне, былі вернутыя — невытлумачальным парадкам — Расеі, апынуліся ў Маскве, Ноўгарадзе і Санкт-Пецярбургу.

Падчас вайны беларускія мастацкія й кніжныя калекцыі вывозіліся ня толькі на захад, але й на ўсход. Пасьля далучэньня Заходняе Беларусі да БССР Заходнюю Беларусь адразу-ж наведалі экспэдыцыі з Масквы. Шмат дарагіх рэчаў, у тым ліку мэблі й абразоў, былі высланыя ў Маскву; былі вывезеныя таксама рэдкія выданьні і рукапісы з каталіцкае сэмінарыі ў Пінску. Іхнае месцазнаходжаньне застаецца няведамым. Мастацкія рэчы зь Віцебска і Гомеля апынуліся ў Саратаве і Валгаградзе. Намаганьні пасьля вайны вярнуць іх назад ніякіх вынікаў не далі.

Раскамплектаваньне збораў Беларускага музэю ў Вільні адбылося ўжо першымі паваеннымі гадамі.

Беларусь ня мела дзяржаўнае ўстановы, якая займалася-б справаю вяртаньня страчаных скарбаў. Толькі ў 1989 г. была створаная камісія «Вяртаньне» пры Беларускім фондзе культуры. Але гэта грамадзкая, а не дзяржаўная камісія і падтрымвасцца яна толькі дабраахвотнымі ўзносамі. Тым ня менш, яна сабрала значны матар'ял і апублікавала дзьве кнігі дакумэнтаў і матар'ялаў. Нарэшце, у 1992 годзе была створаная пры Міністэрстве культуры Дзяржаўная камісія па вяртаньню. Але паказальна, што яна таксама фінансуецца толькі дабраахвотнымі складкамі і дзеля гэтага мае абмежаваныя магчымасьці дзеяньня. Была таксама створаная, і спачатку фінансаваная Міністэрствам культуры, камісія экспэртаў пры Нацыянальным навукова-дасьледніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны. На жаль, ужо больш як год таму Дзяржаўная камісія спыніла сваё дзеяньне, а камісія экспэртаў ня мае ніякай фінансавай падтрымкі ад Міністэрства культуры. Магу толькі пазайздросьціць высокаму ўзроўню дзейнасьці ў гэтай галіне маім расейскім і ўкраінскім калегам.

У сьвятле сказанага стаецца ясным, што Беларусь павінна стварыць у сябе таксама адпаведную ўстанову ў складзе кампэтэнтных спэцыялістаў з заданьнем росшуку адпаведных архіўных дакумэнтаў ды ўстанаўленьня сьпісу перадваенных інвэнтароў і каталёгаў, якія могуць паслужыць асноваю для вяртаньня нашых страчаных скарбаў. Шмат з гэтых матар'ялаў знаходзяцца ў Маскве, аднак мы практычна ня маем доступу да іх. Да гэтага часу мы ня маем таксама доступу да Фонду Розэнбэрга ў фэдэральных архівах Нямеччыны ў гор. Кобленцы.

Ужо тут, у Амэрыцы, мы даведаліся пра існаваньне Смаленскага фонду, пра рукапісы беларускага паэта Васіля Кавала ў Нацыянальным Архіве Вашынгтону ды пра даволі вялікі збор польскага фальклярыста і этнографа прафэсара Абрэмбскага ў архіве Масачусэтскага ўнівэрсытэту. Усё гэта будзе вельмі цікава для беларускіх дасьледнікаў.

Хоць найлепш было-б, зразумела, вярнуць страчаныя скарбы, «вяртаньне» можа адбыцца розным спосабам: апісаньнем, капіяваньнем, абменам экспанатаў. Вяртаньне таксама не павінна быць вуліцай з аднабаковым рухам. Мы, беларусы, прадэманстравалі сваю добрую волю ў гэтым сэнсе, вярнуўшы Ўкраіне частку Пятлюравае бібліятэкі, а таксама вярнуўшы Расеі трафейную калекцыю кнігаў, што была пасьля адасланая Нідэрляндам.

Уся праблема вяртаньня скарбаў вымагае падпісаньня міждзяржаўнага пагадненьня паміж краінамі, што ўваходзяць у СНД, і дзяржавамі Эўропы. Гэтае складанае і важнае мерапрыемства паслужыць дасягненьню мэты кожнай з нашых дзяржаваў і іхнаму культурнаму росквіту.

**Томас Бэрд**

## БЕЛАРУСКІЯ ПАРЛЯМЭНТАРЫІ Ў ЛЁНДАНЕ

8-га сьнежня ў культурным цэнтры імя Ф. Скарыны пасольства Рэспублікі Беларусь і Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі ладзілі сустрэчу са Старшынём Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Мечаславам Грыбам і з народным дэпутатам, пісьменьнікам Нілам Гілевічам.

Пасьля агляду Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны госьці прыбылі на сустрэчу са спазьненьнем. Першым на залі вітаў іх Я. Міхалюк, старшыня ЗБВБ. Сп. Грыб паясьніў прысутным, што дэлегацыя прыбыла ў Лёндан на запросіны брытанскага ўраду і што на працягу трох дзён (6-8.XII) яны зьведвалі Палату Лёрдаў, Парлямант, гутарылі са старшынямі гэтых установаў, прысутнічалі на паседжаньні Парляманту, мелі таксма сустрэчу з прэзыдэнтам Эўрапейскага банку разбудовы і рэканструкцыі. Гэта была першая парляманцкая дэлегацыя зь Беларусі ў гэтую краіну.

Гаворачы аб нутраной сытуацыі ў Беларусі, сп. Грыб сказаў, што асноўнай працай апошніх двух з палавінай год было выпрацоўваньне Канстытуцыі. Цяжкая эканамічная сытуацыя ўсё больш змушае на бліжэйшыя эканамічныя зносіны з Расеяй. Міжнародны Валютны Фонд згодны аказаць дапамогу ў памеры 300 мільёнаў даляраў, аднак вымаганыя ім варункі, проста не да прыняцьця: дэфіцыт у дзяржаўным бюджэце рэспублікі павінен у 1995 г. быць скарочаны да 4%, а інфляцыя з канцом году павінна быць зьменшана да 10%.

Напрыканцы свайго дакладу сп. Грыб выказаў задаваленьне сустрэчай, дзякаваў арганізатарам яе, асабліва дзякаваў сп. Я. Домініку за аказаную дапамогу ў закватэраваньні Беларускага пасольства ў Лёндане. Сп. А. Якавіцкі, пасол Беларусі, падзякаваў ЗБВВ за дапамогу ў наладжаньні сустрэчы.

Адказваючы на пытаньне аб нацыянальным гімне, сп. Н. Гілевіч шырока паясьніў аб працы ўзначальванай ім камісіі, што займаецца падборам слоў да гімну.

Праф. Дж. Дынглі паставіў пытаньне сп. Грыбу, цытуючы зь «ЛіМу» за 4 лістапада, дзе падавалася, што на адным з прыняцьцяў быў зроблены здымак, на якім М. Грыб выступае разам са знаным членам мафіі. . . Сп. Грыб, адказваючы на «нетактоўнае пытаньне», паясьніў, што на здымку была іншая асоба, а ня ён, што ўся тая справа мела месца ў часе прэзыдэнцкіх выбараў, яна была перадана на сьледзтва ў пракуратуру, і пракуратура не знайшла ніякіх падстаў супраць яго.

*(Працяг на 6-й ст.)*

*З жыцьця ў Чыкага*

## КАЛЯДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ

Падрыхтоўка да каляднага фэстывалю ў Музэі Навукі і Індустрыі пачалася ў першай палове лістапада летась. Наша ялінка была ўбрана старымі арнамэнтамі, папоўненымі таксама новымі, з саломкі ў вясёлкавых колерах, нарыхтаванымі нашай мастачкай спняй Людвікай Беленіс. Пад ялінкай быў пастаўлены вялікі абраз, намаляваны сп-няй Алінай Масьніковай (па мужу Вайман), адлюстроўваючы ў жывых колерах беларускую калядную фантазію. Беларуская ялінка цешылася папулярнасьцяй сярод наведнікаў.



Сп-ня Вера Рамук дэманструе тэхніку нарыхтоўкі беларускіх арнамэнтаў з саломкі. Фота Вітаўта Рамука.

Апрача алінак, лікам 43, выстаўленых рознымі этнічнымі групамі, музэй наладзіў выставу нацыянальнай вопраткі. Сярод дзевяці этнічных групаў, беларускай быў адведзены ў цэнтры пакою стэнд, на якім былі выстаўленыя экспанаты (мужчынскі і жаночны касьцюмы з паясненьнем пра беларускае вышываньне).

Фэстываль пратрываў да 3 студзеня. 15 сьнежня сп-ня Вера Рамук прадэманстравала перад публікай у музэі тэхніку нарыхтоўкі армамэнтаў з саломкі розных колераў. Зацікаўленьне наведнікаў было вялікае, аб чым сьвечылі шматлікія пытаньні.

1 сьнежня была наладжаная ў штатавым будынку невялікая выстаўка калядных арнамэнтаў з саломкі. Некалькі зь іх былі прывезены адным наведнікам зь Ліды зь Беларусі. Выстаўка пратрывала да 2 студзеня.

Сп-ня В. Рамук уручыла некалькі ялінкавых аздобаў з саломкі, прывезеных з Беларусі, губэрнатару Джыму Адгару праз сп-ню Пэт Міхальскую, дарадчыцу па этнічных справах пры губэрнатары, за што ён падзякаваў лістоўна. Адказнай за наладжаньне выстаўкі была сп-ня В. Рамук.

Ялінку ўбіралі Ірэна Пануцэвіч, Вера Рамук, Люба Кавалёнак і Джан Кэр, а пры разборы памагалі таксама Людвіка Беленіс і сп-тва Маргарэта і Васіль Багданы. Усім належыцца шчырая падзяка.

## ВЫСТАЎКА ФАТАГРАФІЯЎ

9 кастрычніка летась была наладжана ў залі царквы Хрыста Збаўцы выстаўка фатаграфіяў дзяцей, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Здымкі (усіх 35) прывёз менскі фатограф Анатоль Кляшчук, які ўжо дзесяць гадоў як займаецца фатарэпартажамі. Сп. Кляшчук паясьніў сюжэты здымкаў, якія глыбока адлюстроўвалі трагедыю беларускіх дзяцей, ды адказаў на пытаньні публікі пра Чарнобыль.

## ВІЗЫТ АЙЦА АЛ. НАДСОНА

2 лістапада летась наведаў Чыкага а. Аляксандар Надсон і на сустрэчы зь беларускай грамадой расказаў пра стан рэлігійнай і нацыянальнай справы ў Беларусі. У нядзелю 6 лістапада адслужыў св. літургію ў царкве Хрыста Збаўцы, пасьля чаго ў царкоўнай залі падзяліўся весткамі пра агульную сытуацыю ў Беларусі.

Айцец Надсон прывёз падрыхтаваны матар'ял для царкоўнага календара на 1995 год. Дзякуючы ахвярнасьці кіраўніка царкоўнага хору сп. Эдвіна Ўокера, календар быў набраны кампютарным спосабам і, апраўлены вокладкай, цяпер прадаецца па 2 даляры за паасобнік.

**Др. Вітаўт Рамук**

## ПРЫКЛАД ГОДНЫ НАСЬЛЕДАВАНЬНЯ

У горадзе Фрыпорт у штаце Іліной (100 зь нечым міляў на паўночны захад ад Чыкага) др. Ролянд Талівэр, спэцыяліст у пэдыятрыі, са сваёй жонкай Ірэнай з дому Рамукоў, пабачыўшы летась у мясцовым будынку ІМКА сьцягі шматлікіх краінаў Эўропы і сьвету, пастанавілі зафундаваць беларускі сьцяг. Заказалі сьцяг памерам пяць фураў на тры і, з дазволу адміністрацыі ІМКА, павесілі сьцяг на сьцяне, а таксама памясьцілі плякетку з гэрбам ІМКА і надпісам "Žyvie (Long live) Biełaruś. Given by Roland and Irene Tolliver and Family".

Сапраўды было прыемнай неспадзёўкай для аўтара гэтых радкоў і ягонай жонкі Веры, калі мы адведалі сям'ю Талівэраў і яны нам гэта паказалі.

**Др. Вітаўт Рамук**

## *КАНФЭРЭНЦЫЯ: «ЗАРУБЕЖНАЯ АРХІЎНАЯ БЕЛАРУСІКА»*

У верасьні сёлета адбудзецца ў Менску міжнародная навуковая канфэрэнцыя "Зарубежная архіўная беларусіка". Ейныя арганізатары: Камітэт па архівах і справаводзтву РБ, Беларускі навукова-дасьледчы цэнтр дакумэнтазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы, Беларуская асацыяцыя клюбу ЮНЭСКА і часапіс «Беларуская мінуўшчына».

На канфэрэнцыі будзе абмеркваны цэлы шэраг праблемаў, у тым ліку гэткія, як «Выяўленьне дакумэнтаў і матар'ялаў па гісторыі Беларусі ў архівах, музэях і бібліятэках блізкага і далёкага замежжа»; «Архівы беларускай эміграцыі»; «Пэрыядычныя выданьні беларускай эміграцыі як крыніца па гісторыі Беларусі»; «Лёс архіву БНР» і інш.

Па інфармацыю зварачацца на адрас: 220048, Менск, вул. Калектарная, 10. Камітэт па архівах і справаводзтву Рэспублікі Беларусь. Тэлефоны для даведак: 20-51-20 і 20-51-91.

У склад арганізацыйнага камітэту канфэрэнцыі ўваходзяць, разам зь іншымі асобамі, Ганна Сурмач, старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына», Ніна Мазай, пасол РБ у Францыі, а таксама Вацлаў Мацкевіч, галоўны рэдактар «Голасу Радзіму».

---

Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага адзначае 77-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 Сакавіка.

**2 КРАСАВІКА 1995 Г.**

Сьвяточная праграма пачнецца а гадз. 12-й у банкетнай залі «Цэфалю» на розе вуліцаў Камбэрлянд і Ірвінг Парк.

**Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага**

---

*Абвестка-запросіны*

**22-я МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ-РЫВЭРЫ**

У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры (26 So. Whitehead Ave.) адбудзецца 19-26 сакавіка сёлета 22-я выстаўка твораў мастакоў і ўмельцаў зь Нью-Джэрзі і іншых штатаў ЗША, з Канады, а таксама зь Беларусі.

Усіх сардэчна запрашаем!

**Беларускі Мастацкі Клюб у Нью-Джэрзі**

## ПРАФЭСАР Т. БЭРД ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ

Прафэсар Томас Бэрд быў запрошаны даць студэнтам кандыдацкага ўзроўню Лясальскага ўнівэрсытэту лекцыю аб беларускай літаратуры (17.XI.94). У двухгадзінным выкладзе на тэму «Агляд сучаснай беларускай літаратуры на Бацькаўшчыне і ў замежжы» праф. Бэрд гаварыў пра творчасьць — тэматыку і стыль — айчынных пісьменьнікаў: Дубоўкі, Пушчы, Чорнага, Зарэцкага, Быкава, Гілевіча, Барадуліна, Караткевіча, Арлова, Вярцінскага, Макаёнка, Геніюш, Бічэль-Загнетавай, Іпатавай ды пісьменьнікаў-эмігрантаў Арсеньневай, Глыбіннага, Салаўя, Сяднёва, Крушыны і Кавыля. Паўгадзіны часу было прысьвечана адказам на пытаньні слухачоў.

Лектар таксама раздаў сваім слухачам пісьмовыя даведкі пра клясыкаў беларускае літаратуры: Багушэвіча, Купалу, Коласа, Бядулю, Багдановіча, Гаруна, Гарэцкага і Цётку.

Праграма, у якой адбылася лекцыя, прызначаная для кіраўнікоў бізнэсу, урадаўцаў, прыдпарыймальнікаў ды ўнівэрсытэцкіх выкладчыкаў.

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

## ЯЛІНКА Ў НЬЮ-БРАНСЬВІКУ

15 студзеня ў гор. Нью-Брансьвіку мясцовы аддзел БАЗА (кіраўніцтва: Юрка Азарка, Віктар Тур, Юрка Кіпель) у супрацоўніцтве з парафіяй Божае Маці Жыровіцкае наладзілі для дзяцей Беларускую Ялінку. Урачыстасьць прайшла вельмі ўдала — цешыліся дзеці як зь мясцовай беларускай калёніі, гэтак і з далейшых мясцовасьцяў, ды аднагодна было выказанае арганізатарам пажаданьне, каб гэткія сьвяткаваньні зноў сталіся традыцыяй.

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## ЮБІЛЕЙ СП. К. МЕРЛЯКА

У нядзелю 25 сьнежня беларуская грамада ў Рычмонд-Гіле адзначыла 75-годзьдзе сп. Кастуся Мерляка, доўгагадовага старшыні прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага і Беларуска-Амэрыканскага Аб'яднаньня. На службе ў царкве а. Грэгоры абвесьціў юбіляру «Многае лета», а ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры былі вітаньні, гутарка аб жыцьці сп. Мерляка ды супольны абед з музыкай.

**В.Ш.**

## *200-годзьдзе паўстаньня 1794 г.*









Беларуская пошта адзначыла 200-годзьдзе вызвольнага паўстаньня 1794 году. На марках адлюстраваныя кіраўнікі паўстаньня (зьверху): Андрэй Тадэвуш Касьцюшка, Міхаіл Клеафас Агінскі, Томаш Ваўжэцкі і Якуб Ясінскі. Мы атрымалі маркі ад выдаўца менскае газэты «Беларускі Калекцыянер» сп. Уладзіміра Цярохіна, якому шчыра дзякуем.

## «БЕЛАРУСКАЯ АМЕРЫКА»: ПРАЦЯГ БУДЗЕ!

*Зварот паэта і журналіста Леаніда Пранчака да беларускіх эмігрантаў*

Дарагія Суродзічы!

Перад нядаўным адлётам у Нью-Ёрк я забег у выдавецтва «Полымя», дзе рыхтавалася да друку мая кніга «Беларуская Амерыка», каб пацікавіцца яе лёсам. Кніга толькі вярсталася і зь цяжкасьцю верылася, што прыйдзе дзень, калі чытач зможа ўзяць яе ў рукі. . . Дзякуй Богу, той дзень надыйшоў! Дзякуй дырэктару выдавецтва сп. М. Івановічу, рэдактару сп. А. Саламевічу, усім шчырым людзям, якія працавалі над кнігай. Для мяне яе выхад — вялікая падзея і вялікая радасьць, плён шматгадовай працы і пошукаў, даніна павагі і памяці дзеду, Язэпу Пранчаку, які на пачатку XX стагодзьдзя жыў у Амэрыцы. Са старонак кнігі гучаць жывыя галасы беларускага замежжа. Беларускія эмігранты самі расказваюць пра сябе, свой лёс, пра тое, як яны змаглі далёка ад Бацькаўшчыны захаваць сваю адметнасьць і самавітасьць, як праз усё жыцьцё самаахвярна і цярпліва пранясьлі сваю беларускасьць і засталіся беларусамі. Спадзяюся, іх праўдзівыя споведзі дапамогуць чытачу зразумець і адчуць беларускую душу, яе прыгажосьць і нязломнасьць, павернуць да беларушчыны сваіх і чужынцаў.

Мая першая вандроўка па Амэрыцы, калі пісалася «Беларуская Амерыка», была нядоўгай. Па гэтай прычыне ня было магчымасьцяў спаткацца са многімі знакамітымі беларусамі, засталася неасьветленай дзейнасьць беларускіх асяродкаў у Іліной, Каліфорніі, Флярыдзе, Пэнсыльваніі і іншых штатах. Не заўсёды хапала часу для ўдакладненьня ў маіх субяседнікаў асобных фактаў і дэталяў. Таму, на жаль, не абышлося безь некаторых недакладнасьцяў. Перапрашаю за іх.

Цяпер, калі кніга нарэшце пабачыла сьвет, мне вельмі важна ведаць грамадзкую думку пра маю працу. Заўвагі і водгукі я выкарыстаю пры падрыхтоўцы новай кнігі — «Беларуская Амерыка-2», якая працягне пачатую ў «Беларускай Амерыцы» размову пра Беларусь і беларусаў у сьвеце, пра фэномэн беларускага замежжа ў ЗША. Зьвяртаюся да суродзічаў-беларусаў з прапановай стаць маімі суаўтарамі і суразмоўцамі. Я гатовы сустрэцца з Вамі, выслухаць Вас, запісаць Вашы ўспаміны. Буду ўдзячны за любыя дакумэнтальныя матэрыялы, якія змогуць увайсьці ў кнігу. Чакаю Вашых лістоў на адрас:

34 Richter Ave., Milltown, New Jersey 08850

Тэл. (908) 246 3216

Са шчырай пашанай,

**Л. Пранчак**

* * *

Кнігу Леаніда Пранчака «Беларуская Амерыка» можна замовіць у Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры. Заяўкі накіроўваць на адрас:

Belarusan-American Community Center
("Bielaruskaja Amerika")
South Whitehead Ave
P.O.Box 26
South River, NJ 08882



## Паўла Урбан. «ДА ПЫТАНЬНЯ ЭТНІЧНАЙ ПРЫНАЛЕЖНАСЬЦІ СТАРАЖЫТНЫХ ЛІЦЬВІНОЎ»

Менск: Выдавецкі Цэнтр «Бацькаўшчына», 1994. 108 сс.

Гэтая навуковая праца, угрунтаваная ў вялікай меры на першакрыніцах з заходніх бібліятэк і архіваў — пераважна нямецкіх лацінамоўных хронікаў — пачынаецца гэткім уступам:

«Беларуская гістарычная навука доўгі час ня мела ўласнага незалежнага погляду на гісторыю Вялікага Княства Літоўскага й мусіла працаваць у рэчышчы расейскіх прапагандысцкіх стэрэатыпаў. За гэты час у Летуве былі створаныя й пашыраныя канцэпцыі, паводле якіх летувісы зьяўляюцца адзінымі спадчыньнікамі ВКЛ, а беларусы ня маюць да ВКЛ ніякага дачыненьня. Пра заваёвы 'літоўскіх князёў' і захоп імі 'рускіх земляў' пісалі таксама польскія гісторыкі, паўтараючы, што ў ВКЛ палітычна панаваў летувіскі этнічны элемэнт.

«Між тым ужо першыя самастойныя працы беларускіх гісторыкаў паказваюць, што й беларускі народ меў сваю дзяржаўнасьць 'у форме Вялікага Княства Літоўскага'.

«Наша дасьледаваньне мае на мэце з дапамогай невядомых заходнеэўрапейскіх крыніцаў працягнуць гэтую тэму й высьвятліць, да якога этнасу належалі колішнія ліцьвіны й што азначала тады Літва як дзяржава?»

Грунтуючыся на першакрыніцах, аўтар даводзіць славянскі характар Вялікага Княства Літоўскага і асноўнага жыхарства гэтае дзяржавы — «ліцьвіноў». Кніга чытаецца лёгка. У ёй гэткія цікавыя разьдзелы, як "Мова старажытных ліцьвіноў", «Сьведчаньні князёў», «Ліцьвіны й жамойты», "Герб дзяржавы і назоў сталіцы» і інш.

Побач з працамі Міколы Ермаловіча гэта важкі ўклад у беларускую гістарычную навуку. Да гэтай працы будуць зьвяртацца з карысьцю для сябе як далейшыя дасьледнікі беларускае мінуўшчыны, гэтак і шырокі чытач, які апошнім часам усё больш і больш цікавіцца гісторыяй свайго краю.

Выдавецкі цэнтар «Бацькаўшчына» зрабіў добрую справу гэтай каштоўнай публікацыяй.

## БЕЛАРУСКІЯ ПАРЛЯМЭНТАРЫІ

*(Заканчэньне зь 5-й ст.)*

Сп. Гілевіч прывёз з сабой 25 экз. кнігі сваіх твораў і падарыў іх Бібліятэцы. Ад сваёй спадарыні ён прывёз дар – буханак хлеба, што быў пазьней скаштаваны прысутнымі. Быў у складзе дэлегацыі і член-карэспандэнт АН Л. Яўменаў. Сп. Грыб падараваў Беларускаму цэнтру па-мастацку вытканы ручнік і кніжку «Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь» са сваім подпісам.

Сп. М. Шведзюк зьвярнуўся да прысутных з просьбай скласьці грашовыя ахвяраваньні на газэту «Наша слова», на якую было сабрана блізу 300 фунтаў.

Шмат аб чым яшчэ некаторыя прысутныя змаглі пагутарыць з гасьцямі ў часе смачна прыгатаванага спадарынямі Дж. Дзейка і Л. Міхалюк пачастунку. Аўтару гэтых радкоў удалося шырэй абмяняцца поглядамі з такімі гасьцямі зь Беларусі, як праф. В. Бернік і сп. С. Зянько (шваґер праф. Дж. Дынглі), настаўнік школы № 131 у Менску.

**А. Здановіч**

## ПРАГРАМА «БЕЛАРУСЬ» ІДЗЕ НАПЕРАД

Праграма «Беларусь» — гэта супрацоўніцтва паміж канадзкім унівэрсытэтам правінцыі Заходняе Антарыё і менскім Мэдыцынскім інстытутам. Праграма нацэленая на карэнную паправу жудаснага стану здароўя беларускіх дзяцей. Пастаўленая мэта: на працягу пяцігадовага пэрыяду палепшыць адукацыйны ўзровень на факультэце дзіцячай стаматалёгіі ў менскім Мэдыцынскім інстытуце і арганізаваць дэнтыстычную клініку з мадэрнай тэхналёгіяй, дзе можна было-б на сучасным узроўні навучаць і лячыць дзяцей.

Збор грошай на гэтую мэту пачаўся ўвосень 1994 году. Арганізацыйны камітэт хоча падзякаваць наступным арганізацыям і асобам, што склалі шчодрыя ахвяраваньні на праграму «Беларусь»:

| | |
|---|---|
| Канадзкі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі | кан. д. 3000 |
| Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта | 1000 |
| др. Чарльс Рууд | 1000 |
| др. Барыс Рагуля | 1000 |
| др. Раіса Жук-Грышкевіч | 200 |
| Усяго | кан. д. 6 200 |

| | |
|---|---|
| Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі | ам. д. 500 |
| др. Янка Запруднік | 500 |
| др. Уладзімер Набагез | 500 |
| Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтар у Клівлендзе | 6000 |
| Парафія Божай Маці Жыровіцкай ў Клівлендзе | 4000 |
| сп. Анатоль Лук'янчык | 2000 |
| Парафія Божай Маці Жывіцкай у Гайленд-Парку | 1000 |
| др. Марыя Дэмковіч | 200 |
| Фундацыя імя П. Крэчэўскага | 500 |
| др. Анна Бартуль і Сяржук Сокалаў | 500 |
| др. Ніна Запруднік-Вінтэр | 300 |
| Усяго | ам. д. 16000 |
| сп. П. Шыркоўскі (Ангельшчына) | анг. ф. 100 |

Нагадваем, што бальшыня сяброў арганізацыйнага камітэту гэтай праграмы — не беларусы, а людзі адданыя справе дапамогі дзецям. Дзякуючы Вашым шчодрым ахвяраваньням, яны ўжо выслалі ў Беларусь адукацыйны матар'ял, у тым ліку падручнікі па дзіцячай стаматалёгіі, ілюстрацыйны навучальны матар'ял, дапаможныя кнігі і мноства прыладаў, уключна з рэчамі для прэвэнтыўнага і рэстаўрацыйнага лячэньня. А таксама шмат анастэтычных прыладаў, шпрыцоў з голкамі, паколькі у шмат якіх выпадках дзецям вырываюць зубы безь ніякай анастэзіі.

Плян на першы год гэтага пяцігадовага праекту амаль выкананы. Шмат ахвяраваньняў спатрэбіцца ў другім годзе праграмы, якая ўключае пасыланьне выкладчыкаў з унівэрсытэту Заходняга Антарыё ў Менск, каб падняць там адукацыйны ўзровень.

Ахвяраваньні амэрыканскіх донараў звольненыя ад ападаткаваньня.

З падзякаю

**Др. Барыс Рагуля, старшыня**

**Др. Джэральд Райт, дырэктар праграмы**

**Др. Артур Гэдлам, скарбнік**

## ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

**арганізуе спэцыяльную службу гуманітарных паслуг для замежных беларусаў**

Мяркуецца аказваць наступныя паслугі:

- Рассылка пэрыядычнага друку для індывідуальных падпісчыкаў;
- Забесьпячэньне апэратыўнай інфармацыяй пра падзеі ў Беларусі праз рассылку бюлетэня «У плыні часу» (штотыднёвік);
- Рассылка кнігаў, якія выходзяць у Беларусі па індывідуальных заказах;
- Арганізацыя наведваньня Бацькаўшчыны (родных мясьцінаў, гістарычных мясьцінаў, транспартныя паслугі і г.д.);
- Росшук магілак родзічаў, дапамога ва ўстанаўленьні помнікаў, догляд магілак;
- Пошук родзічаў у Беларусі, догляд адзінокіх людзей, інвалідаў, арганізацыя пахаваньня;
- Дапамога ў атрыманьні дакумэнтаў (пасьведчаньня) аб нараджэньні, месцы жыхарства;
- Дапамога ў росшуку дакумэнтаў у архівах Беларусі па пытаньнях, якія маюць дачыненьне да гісторыі роду, сям'і;
- Выданьне кніг па заказах (аплата кошту выданьня заказчыкам);

**Аплата:**

- Аплата расходаў па фактычных затратах (на падставе дакумэнтаў);
- Ахвяраваньні на ЗБС «Бацькаўшчына» па дамоўленасьці і па вашых магчымасьцях.

**Наш адрас:**

220050 Беларусь, г. Мінск,
вул. Рэвалюцыйная,15.
Згуртаваньне беларусаў
сьвету «Бацькаўшчына».
Тэл. (0172) 769-194
Факс (0172) 769-194
Разліковы рахунак № 700307, код 795 у камэрцыйным банку «Беларусь», МФО 153001.
Валютны рахунак № 468070199/001, код 15300226 у Зьнешэканомбанку.

## ПОШУКІ СВАЯКОЎ

**Кацярына Лапіч шукае сыноў і ўнукаў свайго дзеда Якава Лаўруковіча.** Сувязь з Лаўруковічам перарвалася шмат гадоў таму. Апошні адрас быў гэткі: 3592 Fenton, Detroit, Mich. 48239, Jack Lawrukovich.

Калі хто-небудзь ведае пра сыноў ці ўнукаў дзеда К. Лапіч, просьба паведаміць ёй аб гэтым на наступны адрас: 220101 Менск-101, пр. Ракасоўскага, д. 156, кв. 151, Лапіч Кацярына Іванаўна (тэл.: 0172 47-69-14).

**Дзьмітрый Рунцо шукае сваяка, які высехаў за мяжу пасьля Другой сусьветнай вайны і ад якога ў 1979 г. быў атрыманы ліс з гэткім адрасам:** Andrew Savin, 3720 Cote St. Catherine Rd., App. 18, Montreal, H3T 1E1, Que., Canada.

Калі хто-небудзь ведае пра Андрэя Савіна ці яго ных сваякоў або нашчадкаў, просьба паведаміць аб гэтым Дзьмітрыю Рунцо на наступны адрас: 220038 Менск, вул. Даўгабродская, д. 6, к. 2, кв. 4, Рунцо Дзьмітрый (тэл.: 0172 35-04-97 — дом.

**Манкевіч Юрый Уладзіміравіч шукае сваякоў свайго дзеда Аляксандра Манкевіча.** Пасьля 20-гадовага прабываньня ў Амэрыцы дзед вярнуўся на пачатку 1930-х гадоў на бацькаўшчыну ў в. Беразавец Карэліцкага раёну. На працягу шэрагу гадоў дзед даставаў лісты й пачкі зь Нью-Ёрку ад Ірыны Харлап. У 1983 г. ад яе быў ліст з просьбай да сваякоў адгукнуцца. Ліст згубіўся. Памятаецца толькі, што ён быў зь Нью-Ёрку з Брукліну. Калі хто-небудзь у Амэрыцы можа дапамагчы знайсьці сьляды А. Манкевіча або І. Харлап, просьба пісаць на адрас: 231900 Гродзенская вобл., г. Ваўкавыск, вул. Леніна, 47, кв. 4, Манкевічу Юрыю Уладзіміравічу.

**Зоціна Лідзія Іванаўна шукае сваякоў свае цёткі Філіновіч Вольгі Васільеўны** (з дому Выдронак). Цётка нарадзілася ў в. Путчына Койданаўскага р-ну на Меншчыне (памерла ў 1940 г.), мела дзьве сястры: Софію і Марыю. Выехала ў ЗША з дачкой Янінай і сынам Браніславам. Жыла ў Нью-Ёрку (Miro Kaco Street). Калі хто мае якія-небудзь весткі, просьба пісаць на адрас: 290009 Менск, вул. Клумава, д. 5, кв. 2. Зоціна Лідзія Іванаўна.

**Абвестка**

## *ТЫМ, ХТО РЫХТУЕЦЦА НАВЕДАЦЬ БЕЛАРУСЬ*

Шаноўнае спадарства!

Заканчваецца зіма. Ужо хутка, вельмі хутка прыгрэе сонейка, растане сьнег, прабʼюцца на праталінах першыя пралескі, засьпяваюць вясёлыя ручаінкі ля хат. Уздрыгне, зашчыміць і зноў запросіцца на Бацькаўшчыну сэрца. . .

Самы час успомніць пра кампанію «Тэхналегія»! Мы заўсёды гатовыя бачыць Вас на Радзіме! Нашыя спэцыялісты зробяць для групы, альбо для Вас асабіста, візавую падтрымку, сустрэнуць на лётнішчы, замовяць гатэль, арганізуюць транспарт. Харчаваньне, экскурсіі ў любы пункт Беларусі, наведваньне родных мясьцінаў, ахову.

Увесну і ўлетку 1995 году на Беларусі адбудзецца мноства цікавых падзей: выбары ў парлямант, міжнародныя сымпозіюмы, канфэрэнцыі, зьезды. . .

Мы упэўнены, знаёмства з намі — маладой прадпрыймальнай генэрацыяй беларусаў — перарасьце ў сяброўства!

Званеце ў Менск: (0172) 21-77-40 (тэл./факс)

Пішэце: 22007, Рэспубліка Беларусь
г. Менск
вул. Магілёўская, 43
НВК «Тэхналогія»

З павагаю
**Вацлаў Багдановіч**
**прэзыдэнт кампаніі**
**«Тэхналегія»**

### *Прысылайце ў Рэдакцыю выразкі*

Рэдакцыя «Беларуса» ўдзячная ўсім, хто прысылае выразкі газэт і часапісаў, якія выдаюцца на Захадзе. Выразкі выкарыстоўваюцца Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем ня толькі пры выдаваньні газэты, але й для іншых мэтаў.

---

З глыбокім сумам паведамляем, што ў гор. Мюнхэне памёр раптоўна13 лютага сёлета на 69-м годзе жыцьця

**Сьв. пам. ЮРЫ СЯНЬКОЎСКІ**

Нябожчык быў выпускніком Віленскае беларускае гімназіі. Скончыў у 1954 г. факультэт палітычна-сацыяльных навукаў Лювэнскага ўнівэрсытэту. Быў актыўным у культурна-грамадзкай дзейнасьці грамады беларускіх студэнтаў у Бэльгіі. Ад 1955 г. да 1991 працаваў як журналіст і камэнтатар у Беларускай сэкцыі радыястанцыі «Свабода» ў Мюнхэне. Супрацоўнічаў з газэтай «Бацькаўшчына», браў удзел у беларускім грамадзкім і палітычным жыцьці. Быў удзельнікам Першага зьезду беларусаў сьвету ў Менску ў 1933 годзе.

Пахаваны ў на могільніку мюнхэнскага прыгараду Фэльдмохінг, дзе знаходзяцца магілы іншых эмігрантаў-беларусаў.

Шчырыя спачуваньні жонцы, дзецям і ўнукам нябожчыка.

Вечная памяць.

Сябры

---

5 лютага 1995 г., пасьля доўгай і цяжкой хваробы адыйшоў на вечны спачынак сьветлай памяці

**МІХАСЬ ЯНУШ**

Нарадзіўся 21 лістапада 1924 г. ў вёсцы Пэрэспа каля Замосьця, памёр у Томс Рывэры, штат Нью-Джэрзі, пахаваны на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансьвіку, пра што з сумам і глыбокім спачуваньнем сям'і паведамляе

**Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у штаце Нью-Джэрзі**

---

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| К. Акула | ам.д. 50 |

*Ахвяры на газэты 'Беларус' з Кліўленду:*

| | |
|---|---|
| Аддзел БАЗА, Кліўленд | ам. д. 50 |
| Аддзел Беларускіх Вэтэранаў | 50 |
| Бел. Жаночае Згурт. | 50 |
| Грамадзкі Цэнтар Полацак | 50 |
| Царква Жыровіцкае Божае Маці | 100 |
| Кананчук Тацьцяна | 20 |
| Каханоўская Іна | 25 |
| Лукашэвіч Оля | 20 |
| Сяргеевіч Васіль | 20 |
| Ханенка Янка | 20 |
| Яраховіч Астап | 20 |
| Усяго | 425 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Нью-Брансьвіку сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Б. і А. Даніловіч у 4-ю гадавіну сьмерці дарагога сына Эдварда | ам. д. 200 |
| А. Лашук замест кветак на магілу с.п. Уладзіміра Лукашанца | 50 |
| А. Тэлеш | 70 |
| І. Цупрык | 50 |
| В. Бельмач | 50 |
| Я. Аўдзей | 50 |
| І. Гайдэл | 50 |
| А. Монід | 50 |
| Л. Брылеўскі | 50 |
| М. Касьцюк | 40 |
| А. Завістовіч | 40 |
| В. Кажан | 40 |
| К. Мірановіч | 30 |
| В. Пашкевіч | 30 |
| А. Грыцук | 30 |
| П. Бурдзь | 30 |
| М. Белямук | 30 |
| А. Дубяга | 30 |
| А. Сільвановіч | 30 |
| Я. Чорны | 25 |
| Задзіноч. Бел.-Ам. Вэтэранаў | 25 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 25 |
| К. Верабей | 25 |
| В. Пашкевіч | 25 |
| Усяго | 1065 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Мюнхэе, Нямеччына:*

| | |
|---|---|
| В. Станкевіч | ням. м. 100 |
| П. Смаршчок | 50 |
| К. Бандарук | 50 |
| М. Іваноў | 50 |
| П. Урбан | 50 |
| Ю. Сянькоўскі | 50 |
| В. Лаеўская | 50 |
| А. Левіна | 50 |
| Л. Урбан | 50 |
| А. Лукашук | 50 |
| Усяго | 550 |
| | у ам. д. 355 |

**Папраўка:**

У сьпісе ахвярадаўцаў з Аўстраліі («БС» № 419) былі прапушчаныя прозьвішчы:

| | |
|---|---|
| М. Раецкі | аўстр.д. 50 |
| М. Мігаль | 50 |
| В. Расцкі | 25 |

### *Просьба чытачоў і ахвярадаўцаў*

### У СПРАВЕ РАЗЬЛІКУ ЗА ГАЗЭТУ

Асобы, што дастаюць газэту ад нашага прадстаўніка сп. Браніслава Даніловіча, павінны зь ім і разьлічвацца, выпісваючы чэк на ягонае імя і перасылаючы на ягоны адрас:

B. Davilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901

**Ахвяраваньні на беларускіх скаўтаў:**

| | |
|---|---|
| М. Занковіч (Францыя) | ам. д. 182. |
| В. Пашкевіч (Канада) | 40 |

Слаць на адрас:
Luda Machniuk
102 William St.
Jamesburg, N.J. 08831

**Ахвяраваньні на Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва**

| | |
|---|---|
| В. і З. Кіпсль | ам. д. 1000 |
| Я. Запруднік | 100 |
| Др. М. Смаршчок | 50 |